# Маю права

*Бюлетэнь абласнога аддзялення БХК, абласнога аддзялення праваабарончага цэнтра «Вясна», рэгіянальнага праваабарончага цэнтра грамадскага аб'яднання «Ратуша», аб'яднання таварыства абароны правоў спажыўцоў г. Гродна*

*№ 4 (17), снежань 2000 г.*


**Рэдакцыйны каментарый**

## 30 артыкулаў — і ўсё жыццё



Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека была прынята і агалошана рэзалюцыяй 217(III) ад 10 снежня 1948 года. Дэкларацыя, Статут ААН, пакты аб правах чалавека з факультатыўным пратаколам аб грамадзянскіх і палітычных правах да іх разам складаюць Міжнародны біль аб правах чалавека. Дэкларацыя не з'яўляецца пратаколам, таму не мае абавязковай сілы. Сілу закона ім надалі два пакты, прынятыя ў 1966 годзе.

Дэкларацыя застаецца адным з асноўных дакументаў аб свабодзе чалавека, стаіць побач з Хартыяй вольнасці, Французскай дэкларацыяй правоў чалавека і грамадзяніна, і Амерыканскай дэкларацыяй незалежнасці.

У 30-ці артыкулах абвешчаны грамадзянскія і палітычныя, сацыяльныя і культурныя правы.

Правы чалавека маюць на ўвазе права на жыццё, свабоду, асабістую недатыкальнасць, забарону рабства, катавання і жорсткіх адносінаў да чалавека. Устаноўлены механізмы законнай абароны асобы, калі яна затрымана органамі ўлады. Права на няўмяшальніцтва ў асабістае жыццё і на валоданне маёмасцю падтрымліваецца нароўні з правамі на свабоду размовы, рэлігіі, мірных сходаў і свабоду руху (Арт. 8, 13, 18, 19).

Асобны артыкул (21) прадугледжвае ўдзел грамадзян у кіраванні краінай. Эканамічныя, сацыяльныя і культурныя правы замацаваны ў артыкулах 22-29: права на працу, выбар прафесіі, на здароўе, жыццёвы ўзровень, адукацыю, удзел у культурным жыцці.

Прыняцце ААН Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека выклікана сумным вопытам Другой сусветнай вайны.

## Са святамі!




***Рэдакцыйная калегія бюлетэня «Маю права», Гродзенская абласная грамадская арганізацыя «Ратуша» віншуе ўсіх чытачоў газеты і праваабаронцаў рэгіёна са Святамі!***

***Жадаем у новым тысячагоддзі
добрага здароўя,
баявога настрою,
упартасці ў працы
і дабрабыту Вашым сем`ям.***

## Камітэт ААН рэкамендуе Беларусі

Камітэт ААН супраць катаванняў затурбаваны пагаршэннем стану правоў чалавека ў Беларусі, у тым ліку парушэннем правоў асобы на свабоду самавыказвання, абмежавання свабоды друку, правоў на мірныя сходы. У крымінальным кодэксе Беларусі адсутнічае вызначэнне тэрміна "катаванне" і парушальнікі могуць заставацца непакаранымі.

Парушаюцца тэрміны папярэдняга зняволення. У Беларусі адсутнічаюць незалежныя судовыя органы, бо прэзідэнт мае выключнае права прызначаць і здымаць з пасады большасць суддзяў.

Прэзідэнцкім указам абмежавана незалежнасць адвакатаў, што з'яўляецца парушэннем прынятых ААН прынцыпаў аб ролі адвакатаў.

Не спынена пакаранне смерцю прыгавораных судом зняволеных. У турмах і месцах папярэдняга пазбаўлення волі распаўсюджаны туберкулёз, там дрэнная ежа і санітарна-гігіенічныя ўмовы. Камітэт ААН супраць катаванняў выказаў Беларусі свае прапановы, накіраваныя на выпраўленне азначаных недахопаў.

**P.S. У рэзалюцыі № 304 прадстаўнікоў Кангрэса ЗША (май 2000 г.) таксама асуджаюцца парушэнні правоў чалавека ў Беларусі. Адзначаецца адсутнасць прагрэсу ў справе забеспячэння законнасці. Гучыць клопат аб суверэнітэце краіны, асобах, якія згінулі без вестак.**

**Уладзімір Кавалёў**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА-2000 І ГРОДЗЕНШЧЫНА

*Родная мова*

## Двухмоўе на карысць адной мовы

Беларуская мова выціснута з дзяржаўных установаў. Беларусы на сваёй Радзіме апынуліся ў становішчы нацыянальнай меншасці. Улады ігнаруюць нават сваё рашэнне пра так званую "роўнасць" моваў. З асаблівым цынізмам знішчаюцца беларускамоўныя класы. Але вынікі апошняга перапісу насельніцтва паказалі, што 72,6 працэнта жыхарства Гродзеншчыны назвалі сваёй роднай мовай беларускую, а 53,6 працэнта сцвердзілі, што з'яўляюцца беларускамоўнымі.

Дык на якой падставе чыноўнікі сцвярджаюць, што пераход навучання на рускую мову робіцца па жаданні саміх беларусаў? Ці не таму, што чужынская меншасць займае амаль усе кіруючыя пасады ў вобласці?

**(Паводле Заявы Гродзенскай філіі БСДГ 25 студзеня 2000 года)**

*Прадпрымальніцтва*

## Усё такі: хто каго?

У бягучым годзе ўладзе даліся ў знакі дробныя і сярэднія гродзенскія прадпрымальнікі. Ужо ў лютым яны адказалі забастоўкай на ўвядзенне асобнага падатку на дабаўленую вартасць. А гэта 20 працэнтаў. Значыць, на столькі ж павінны вырасці рынкавыя цэны. А пакупнік сёння бедны. Упадуць аб'ёмы продажу, зменшыцца заробак прадпрымальнікаў. А сума падаткаў застанецца большай, чым раней. Жыві, як хочаш.

Але тэрмін спынення работы ў лютым прадпрымальнікамі быў вельмі сціслым, усяго некалькі дзён. Працавалі шапікі, асобныя гандляры. Заява пра сканчэнне акцыі пратэсту з боку рэспубліканскага прафсаюза "Садружнасць" па БТ паставіла апошнюю кропку ў акцыі.



Дырэктар Гудзевіцкага гісторыка-краязнаўчага музея, Заслужаны работнік культуры Беларусі, выдатны педагог Алесь Белакоз з задавальненнем сустракае турыстаў. Размова вядзецца не толькі аб мінулым роднага краю, але і пра яго будучыню. Тэма правоў чалавека таксама закранаецца ў час сустрэч.

**На здымку: пасля экскурсіі па музеі.**

*Супрацьстаянне*

## "Рэпарцёры" з выканкаму

У маі шырокая грамадскасць даведалася, што кіраўніцтва гарвыканкама не дае згоды на выданне газеты "Репортер". Нібыта па закону, але сутнасць прыхавана больш глыбока. Папершае, газета незалежная. Па-другое, яе рэдактар Анджэй Пісальнік не з тых асобаў, якія танцуюць пад чужую дудку.

У адказ пяцёра работнікаў газеты правялі пікетаванне каля будынка гарвыканкаму. Усіх затрымала міліцыя. Праводзіліся пікеты і надалей. Аднак перамога засталася за чыноўнікамі "вертыкалі".

У свабодным свеце чытач сам вырашае лёс выданняў: купляе або не газеты і часопісы. Без грошай ніякай газеты не зробіш. У Гродне, як наогул у беларускай краіне, за людзей рашэнні пакуль што прымае чынавенства. Сёння — гэта нашы галоўныя "рэпарцёры".

*Сітуацыя*

## У чым віна Буйніцкага?

РАУС Кастрычніцкага раёна горада Гродна абвясціў у сакавіку пра вышук камерсанта Станіслава Буйніцкага. У свой час ён выкупіў былыя склады, якія належалі тытунёвай фабрыцы, зрабіў рамонт і пачаў здаваць плошчы ў арэнду дзесяткам няўрадавых арганізацый.

Міліцыянты сцвярджаюць, што сп. Буйніцкі "учыніў злачынства". Не суд вынес такі прыгавор, а праваахоўнікі...

Іншыя мяркуюць, што прадпрымальніка пераследуюць за тое, што ён цярпіма ставіўся да апазіцыянераў. Нехта сцвярджае, што камусьці з уладных чыноў выела вочы зайздрасць да чужой маёмасці. А ў нас гэтая праблема вырашаецца па-бальшавіцкі, шляхам канфіскацыі.

Цяпер кажуць, што два судовых разбіральніцтвы сп. Буйніцкі выйграў. Аднак "вертыкаль" паспяшалася абскардзіць нявыгадныя для іх рашэнні ў судовыя органы Мінска. Жыццё ідзе...

*Судовая справа*

## Пакараць не атрымалася

Старшыня Свабоднага прафсаюза тонкасуконнага камбіната Адольф Зацэпін пісьмова атрымаў "заўвагу" нібыта за тое, што пакінуў рабочае месца на дзве (!) мінуты раней дазволенага. Так засведчыў вартаўнік на прахадной.

Рабочы не пагадзіўся з незаконным спагнаннем, знайшоў сведкаў, звярнуўся ў суд. Тры месяцы разглядалася справа. У кастрычніку абвясцілі рашэнне: змяніць загад адміністрацыі камбіната і выплаціць Адольфу Зацэпіну з касы прадпрыемства пэўную суму адшкадавання.

Навошта і каму спатрэбіліся "дзве мінуты" зразумела. Як і тое, што лідэр Свабоднага прафсаюза і надалей будзе карыстацца падвышанай увагай "сяброў дэмакратыі".

*Надзвычайныя абставіны?*

## Затрымалі, пабілі. Але за што?

У траўні работнікі Кастрычніцкага РАУС беспадстаўна затрымалі жыхарку Гродна Надзею Сазанавец. Яна была збіта, ноч пратрымана ў пастарунку, прыкавана за руку да ложка кайданкамі. "Справу" з-за яе надуманасці нават суддзя адмовіўся разглядаць. "Суткі" не атрымаліся. А правал учынку міліцыянтаў стаў відавочным.

Н.Сазанавец абскардзіла дзеянні праваахоўнікаў у пракуратуру. Пракурор Яўген Труцька адказаў, што праведзенай праверкай правапарушэнняў з боку людзей у форме не выяўлена, спецсродкі (ПР-73 — палка резиновая) не ўжываліся. Аднак спецыялісты судмедэкспертызы выказалі супрацьлеглую думку.

Міліцыянты Чарняк і Шанчук спасылаліся на тое, што жанчына адмовілася назваць сваё імя пры затрыманні. А чаму міліцыя павінна чапляцца да першага сустрэчнага? І брудна не лаялася, як сцвярджаецца ў пратаколе. Праўда, сведкі чамусьці раптоўна забыліся пра сутнасць справы.

Жанчыне не далі патэлефанаваць дадому малой дачцэ. Пракуратура не дала ацэнкі фактам пратрымання жанчыны ноч у падраздзяленні, прыкаванай да ложка, таму, што суд адмовіўся разглядаць справу "дробнага хуліганцтва і непадпарадкавання міліцыі".

**(Па матэрыялах газеты «Пагоня»)**

**Беларускі Хельсінскі Камітэт**



**Інфармацыйна-прававая старонка**

# «Можаце скардзіцца хоць у ААН...»

**Праваабаронца Аляксандр Антанюк прысутнічаў на паседжаннях Еўрапейскага Суда па правах чалавека ў Страсбургу. Гэтая структура створана ў 1959 годзе краінамі, якія аб'ядналіся ў Савеце Еўропы. Былы СССР не прызнаваў юрысдыкцы Суда. Цяпер тую ж памылку паўтарае Беларусь.**

**Спадар А.Антанюк адказаў на пытанні нашага карэспандэнта.**

— Эфектыўнасць работы Еўрапейскага Суда высокая. Сотні грамадзян, чые правы былі парушаны, атрымалі немалыя грашовыя спазыскі. Іншыя краіны пераглядаюць свае ўнутраныя заканадаўствы, каб зноў не трапіць у спісы парушальнікаў правоў і асноўных свабод сваіх грамадзян. За 41 год Судом разгледжана звыш тысячы справаў.

**— Калі дзяржава не сябра Савета Еўропы, яе жыхары не маюць права звяртацца за дапамогай у Суд. Навошта тады весці гаворку пра яго дзейнасць?**

— Можна маўчаць, як гэта рабілі ў свой час кіраўнікі Савецкага Саюза, можна здзекліва абражаць, маўляў, не Еўропе нас вучыць. Але ад гэтага прававая сітуацыя ў роднай дзяржаве не палепшыцца. Таму і замоўчваюць аўтарытарныя лідэры, каб прыхаваць жахлівую сітуацыю з правамі чалавека на радзіме. Ісці пад Суд нікому не ахвота.

Мне вядома, што з краін СНД у Суд прыходзіць шмат пісьмаў і заяў аб нечалавечных абыходжаннях з імі мясцовых уладаў, незаконным затрыманні і арышце, несправядлівым судовым разбіральніцтве. Гэтыя справы могуць стаць фактам разбіральніцтва, калі ведаць, што рашэнні Еўрапейскага Суда абавязковыя для выканання краінай, аб якой ідзе гаворка. Няма фактаў пра невыкананне рашэнняў. Для сябе даражэй абыйдзецца...

Суд прызнаваў вінаватымі, напрыклад, Велікабрытанію (надзяванне мяшка на галаву зняволенага), Бельгію (парушэнне правоў на судовую абарону бадзягаў), Францыю (праслухоўванне тэлефонных размоваў), Італію (зацягванне судовых разбіральніцтваў). Аўстрыю (дрэннае ўтрыманне ў псіхіатрычнай бальніцы), Данію (парушэнне правоў на адукацыю).

**— Скажам, што нейкая дзяржава прызнала юрысдыкцыю Еўрапейскага Суда. Грамадзянін можа свабодна звярнуцца туды за дапамогай. Заявы аб якіх парушэннях правоў асобы прымае Суд для разгляду?**

— Амаль усіх вядомых правоў, за выключэннем некаторых сацыяльна-эканамічных і асабовых. Трэба, каб парушанае права было адзначана ў Еўрапейскай Канвенцыі аб абароне правоў чалавека і асноўных свабод, ці ў Пратаколах да яе. Разглядаюцца справы па смяротных прыгаворах, павазе прыватнага жыцця, свабодзе сумлення і рэлігіі, выказвання сваёй думкі і свабодзе сходаў; грамадзян-



скія справы аб бесперашкодным карыстанні сваёй маёмасцю, продажы зямлі, нацыяналізацыі ўласнасці; спазыскі, звязаныя з шумам, які ўчыняюць самалёты; роўнасцю мужа і жонкі ў сям'і, абаронай рэпутацыі...

Не падсуднымі з'яўляюцца спрэчкі аб працаўладкаванні, сацыяльным забеспячэнні, падаткаабкладанні.

**— Усё ж пры падачы скаргі трэба строга захоўваць пэўныя ўмовы, інакш справе не будзе дадзена хада.**

— Павінны быць вычарпаны ўсе магчымасці аховы правоў у сваёй краіне. Пасля суда першай інстанцыі неабходна прайсці ўсе апеляцыйныя суды, уключаючы Вярхоўны ці Канстытуцыйны. Скарга павінна быць пададзена не пазней шасці месяцаў з дня вынясення канчатковага рашэння кампетэнтным дзяржаўным органам. Скарга падаецца толькі на парушэнні, якія адбыліся з моманту прызнання дзяржавай юрысдыкцыі Еўрапейскага Суда. Напрыклад, для Расіі – з 5 траўня 1998 года.

Заяўляльнікі часцей за ўсё вызваляюцца ад судовых выплат, нават у выпадку пройгрыша справы.

**— Як той казаў, а суддзі хто?..**

— Кампетэнтнасць забяспечваюць юрысты розных краін з прызнанымі заслугамі, паважаныя асобы ў еўрапейскай законатворчасці. Яны ўваходзяць у склад камітэтаў, палат, Вялікай палаты і Пленарнага паседжання. Па сутнасці, скарга разглядаецца Палатай ці Вялікай Палатай. Рашэнне апошняй ёсць канчатковае, як і Пленума Суда ў складзе ўсіх абраных суддзяў краінудзельніц.

Справа разглядаецца ў адкрытым паседжанні. Афіцыйныя мовы – англійская і французская. Старшыня можа дазволіць карыстацца і іншай. Сёння кіруе работай Суда швейцарац Луцыус Вілд Хабер.

Палата налічвае шэсць суддзяў, Вялікая Палата – 17. Ад кожнай дзяржавы-удзельніцы Савета Еўропы выбіраецца на шэсць гадоў адзін суддзя са спіска, дзе пазначаны тры асобы-кандыдаты. Ужо ёсць суддзі ад Польшчы, Чэхіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Расіі.

Еўрапейскі Суд не адмяняе рашэнняў нацыянальных судоў. Ён прымае ўласнае рашэнне, і дзяржава, прызнаная вінаватай, прымае захады па выпраўленню адзначаных недахопаў.

Для забеспячэння справядлівасці Еўрапейскі Суд прызначае грашовую кампенсацыю матэрыяльнай і маральнай шкоды.

**Гутарыў Уладзімір Кавалёў**

# СХОД СКАЗАЎ СВАЁ СЛОВА

У Мінску адбыўся ўстаноўчы сход праваабарончай арганізацыі "Хельсінкі-XXI". Удзел прымалі звыш 100 чалавек з рэгіёнаў Беларусі.

Сярод іншых дакументаў таксама былі абмеркаваны статутныя палажэнні. Абраны Сойм і Рада.

Арганізацыя ўтворана па ініцыятыве часткі праваабаронцаў, якія ў верасні гэтага года выйшлі з БХК. Сярод заснавальнікаў "Хельсінкі-XXI" – Аляксандр Патупа, Святлана Алексіевіч, Рыгор Барадулін, Юры Хашчавацкі, Валянцін Тарас, Уладзімір Халіп.

У свой час яны выказалі нязгоду з палітызацыяй работы Беларускага Хельсінскага Камітэта (кіраўнік Таццяна Процька).

Застаецца спадзявацца, што "Хельсінкі-XXI" стане надзейным абаронцам правоў і асноўных свабод чалавека.

# ПРАВАКАЦЫЯ НЕ ЎДАЛАСЯ



1-га лістапада сябры Гарадзенскай гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэньне» усклалі кветкі, паставілі бел-чырвона-белыя сцяжкі і запаленыя свечкі на магілы памерлых сяброў і знакамітых гарадзенцаў. Адзначалася народнае свята Дзяды.

А 17-й гадзіне каля 40 чалавек вырашылі наведаць памятныя мясціны горада. Ушанавалі памяць паўстанцаў 1863-64 года на чыгуначным вакзале. Каля помніка Я. Купалу ў час ускладання кветак на вялікай хуткасці з уключанымі сірэнамі пад'ехала больш за дзесятак міліцэйскіх машын. Прысутныя былі акружаны амапаўцамі і міліцыянтамі. Прагучала патрабаванне спыніць акцыю.

Неўзабаве пачуўся загад браць усіх, у каго ёсць бел-чырвона-белыя сцяжкі. Быў павалены на зямлю, скручаны і закаваны ў кайданкі Аляксандр Міхальчык, Мікола Воран і Пётра Анісімовіч. Сябру Маладой Грамады Святлане Нех пры затрыманні пашкодзілі пальцы. Толькі ў аддзяленні да яе выклікалі доктара, каб спыніць кровацячэнне. Дзяўчыну адвезлі ў траўмапункт на рэнтгеналагічнае даследаванне.

У Ленінскім РАУС у затрыманых узялі пісьмовыя тлумачэнні і склалі пратаколы, абвінавачваючы ва ўдзеле ў несанкцыянаваным шэсці. Ніхто не згадзіўся з такім вердыктам, і таму пратаколы не былі падпісаныя. Двум удзельнікам мерапрыемства, Пятру Анісімовічу і Міколу Ворану, адразу былі ўручаны павесткі ў суд. Іх таксама абвінавацілі ў супраціве міліцыянтам пры затрыманні.

Праз тры гадзіны ўсіх затрыманых адпусцілі. Удзельнікі мерапрыемства аднадушна вырашылі працягнуць акцыю з таго месца, дзе яна была спынена гвалтоўнымі дзеяннямі міліцыянтаў.

**Сяргей Мальчык**

## Праваабарончы цэнтр "Вясна" інфармуе...

12 лістапада гарадзенскімі ўладамі і праваахоўнымі органамі праведзена чарговая акцыя гвалту, дэманстрацыя непавагі да правоў чалавека і патрабаванняў Канстытуцыі Беларусі.

У гэты дзень каля Дома сувязі некалькі дзесяткаў сяброў Маладога Фронту і Маладой Грамады праводзілі пікет з патрабаваннем дэмакратычных пераменаў у грамадстве.

Улады горада Гродна ўсё часцей выкарыстоўваюць рэпрэсіўныя меры для падаўлення апазіцыйных настрояў у грамадстве.

# Выбарчая кампанія –2000: фальш і фарс

**Яшчэ працягваецца каментарый нядаўніх выбараў у так званую палату прадстаўнікоў Беларусі. Праваабарончы цэнтр "Вясна" канстатуе, што падчас галасавання было шмат разоў парушаліся артыкулы Выбарчага Кодэксу. Вось толькі некаторыя зафіксаваныя факты:**

Камендант інтэрната № 1, што на вул. Сацыялістычная-66, прымушала выкладчыкаў ісці галасаваць датэрмінова. Пагражала падаць спісы тых, хто не прагаласаваў, рэктару ГрДУ.

Намеснік дырэктара па інфармацыі і выхаваўчай рабоце М.Краўчанка в\а «Азот» прымушаў начальнікаў цэхаў разам з падначаленымі ў рабочы час ехаць галасаваць.

Па загаду рэктара медуніверсітэта студэнтоў 2-га і 3-га курса разам з выкладчыкамі кафедр факультэцкая хірургія, гісталогія і іншых знялі з заняткаў і прымусова павезлі галасаваць на выбарчы ўчастак.

Па загаду рэктара медуніверсітэта П. Гарэліка прымушалі выкладчыкаў кафедраў прывесці свае вучэбныя групы прама з заняткаў на галасаванне.

Пакоі інтэрната № 3 універсітэта абыходзілі выкладчыкі, прарэктар па выхаваўчай рабоце Кабяк і камендант інтэрната. Студэнтаў, якія адмовіліся ісці на выбары, абражалі і прымушалі ісці галасаваць пад пагрозай высялення.

Загадчыца юнацкага аддзела абласной бібліятэкі Матыс прымушала супрацоўнікаў ісці галасаваць пад пагрозай звальнення.

Камендант інтэрната № 1 медуніверсітэта К.Рвачова прымушала жыхароў інтэрната ісці на выбары. Матывавала тым, што яна будзе звolena з працы, калі жыхары не прагаласуюць.

Рабочых « Гроднажылбуда» знялі з работы і ў 13.30 адвезлі на аўтобусе на ўчастак для галасавання.

У інтэрнаце аўтапарка № 1, што на вул. Лідскай- 29а , прадстаўнік адміністрацыі аўтапарка М. Пацуй прымушаў жыхароў інтэрната галасаваць пад пагрозай высялення.

У СШ № 9 былі адменены ўрокі, бо ў будынку школы знаходзіцца выбарчы ўчастак.

Камісія Лідскай-Сельскай акругі аб'язджала ўсе неабходныя вёскі са скрыняю для галасавання, чым забяспечыла амаль 100% яўку.

На ўчастку № 8, СШ № 14, пасля 18.00 для « кворума» не хапала 300 галасоў. Адрасы даваліся міліцыянтам , яны ездзілі па хатах і «выганялі» людзей на ўчасткі.

Вечарам 15 лістапада ў інтэрнат БМУ па вул. Шчорса-50 прыехалі сябры камісіі, якія хадзілі па пакоях і прымушалі прыняць удзел у галасаванні.

У Ашмянскім раёне праз школьнікаў ішла агітацыя за У.Вадзюшына. Настаўнікі раздавалі вучням ўлёткі, каб іхнія бацькі галасавалі за гэтага кандыдата.

Начальнік ашмянскай арганізацыі «Раённыя электрычныя сеткі» Верамеевіч выступіў перад працоўнымі і загадаў, каб усе прагаласавалі на сваіх участках. У выпадку няўдзелу ў выбарах будуць прынятыя меры па пакаранню.

Начальнік праектна-рамонтнага аб'яднання «Гроднаабл-дорбуд» адрасаваў начальнікам падведамасных арганізацый загад :

«Прашу забяспечыць 100%-ны ўдзел сваіх работнікаў у выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу РБ і быць на рабочым месцы 15.10.2000 года. Аб выкананні дадзенага ліста дакласці мне асабіста 16.10.2000 года да 10 гадзін раніцы».

Старшыня Ашмянскага райвыканкама В.Кудырка разаслаў ва ўсе падуладныя ўстановы загад, каб забяспечыць яўку на выбары, за што быў пакараны кіраўніцтвам вобласці вымовай.

Трэба заўважыць, што заканадаўства парушалася не толькі ў дзень галасавання, але і ў дні датэрміновага галасавання.

# Парушэнняў тысячы, а ўпаўнаважанага няма

30 снежня 1998 года загадам Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый Беларусі было зацверджана палажэнне "Аб упаўнаважаным па абароне правоў спажыўцоў". Тэрытарыяльным камітэтам прадпрымальніцтва і інвестыцый было даведзена: забяспечыць метадычны кантроль за выкананнем функцый і задач, ускладзеных на ўпаўнаважаных па абароне правоў спажыўцоў мясцовых выканкамаў.

Асноўнай задачай упаўнаважанага з'яўляецца абарона правоў і жыццёвых інтарэсаў спажыўцоў на рынку тавараў і паслуг.

Функцыі, ускладзеныя на ўпаўнаважанага, наступныя:

⇨ ажыццяўленне кантролю за выкананнем на замацаванай тэрыторыі Закона Беларусі "Аб абароне правоў спажыўцоў", правілаў гандлю, бытавога і іншых відаў абслугоўвання насельніцтва";

⇨ разгляд ва ўстаноўленым парадку зваротаў, заяваў і скаргаў спажыўцоў, а таксама кансультаванне і інфармаванне насельніцтва па правах абароны правоў спажыўцоў;

⇨ каардынацыя дзейнасці ўсіх структурных падраздзяленняў выканкамаў у галіне абароны правоў спажыўцоў, ажыццяўленне метадычнага кіраўніцтва гэтай работай, узаемадзеянне з усімі зацікаўленымі;

⇨ інфармаванне адпаведных выканкамаў і тэрытарыяльных камітэтаў прадпрымальніцтва і інвестыцый, а таксама ўстаноў, якія ажыццяўляюць кантроль за якасцю і бяспекай тавараў (работ, паслуг) аб выяўленых фактах парушэння якасці тавараў, работ ці паслуг, і аб таварах (работах, паслугах), якія ўяўляюць небяспеку для жыцця, здароўя, маёмасці спажыўцоў і акаляючага асяроддзя;

⇨ абагульненне і аналіз парушэнняў заканадаўства па пытаннях абароны правоў спажыўцоў, падрыхтоўка прапаноў па ўдасканаленню формаў і метадаў работы па абароне правоў спажыўцоў і накіраванне абагульненых дадзеных у тэрытарыяльны камітэт прадпрымальніцтва і інвестыцый;

⇨ супрацоўніцтва і ўзаемадзеянне з грамадскімі аб'яднаннямі спажыўцоў раёна (горада), арганізацыя падтрымкі гэтых аб'яднанняў пры іх стварэнні і развіцці іх арганізацыйнай структуры.

Упаўнаважаны мае права ва ўстаноўленым парадку на атрыманне ад адпаведных службаў выканкамаў, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў "сваёй" тэрыторыі дакументаў, не абмежаваных у праве карыстання, іншых неабходных матэрыялаў для ажыццяўлення мер па абароне правоў спажыўцоў. Гэтая асоба мае права прыпыняць рэалізацыю тавараў (работ, паслуг) да ўхілення парушэнняў, ці з-за адсутнасці дакладнай і поўнай інфармацыі, пратэрміноўкай захавання тавараў, работ і паслуг у выпадку абавязковасці захавання тэрмінаў. Калі выяўленыя недахопы небяспечныя для здароўя, жыцця, маёмасці спажыўцоў і акаляючага асяроддзя, то гэтыя звесткі перадаюцца ў органы, якія ажыццяўляюць кантроль за якасцю і бяспекай тавараў.

Упаўнаважаны мае права запрашаць да правядзення праверак і экспертызы кваліфікаваных спецыялістаў з іншых устаноў і арганізацый, уключаючы работнікаў кантрольных і праваахоўных органаў.

Важнасць асобы ўпаўнаважанага выяўляецца ў тым, што ён можа ўносіць на разгляд выканаўчых і распарадчых органаў прапановы аб мерах па павышэнні якасці тавараў, работ і паслуг; зняцця з вытворчасці і гандлёвага абароту тавараў, небяспечных для жыцця чалавека і прыроды.

Упаўнаважаны прызначаецца і вызваляецца распараджэннем старшыні выканкама.

**Аляксей Шульга,**
старшыня
грамадскага аб'яднання
"Таварыства абароны
правоў спажыўцоў г. Гродна".
Тэл/факс (0152) 75-07-45.




# Хто ў магазіне галоўны?

**У правілах вядзення рознічнага гандлю (зацверджаны Міністэрствам гандлю Беларусі ў новай рэдакцыі 7 чэрвеня 1999 г.) пазначаны абавязкі прадаўца.**

Прадавец абавязаны праяўляць штодзённы клопат аб пакупніку. Напрыклад, за пяць дзён папярэджваць нас аб закрыцці аб'екта на рамонт. Мець дастатковы досвед аб якасці тавараў, спраўны вымяральны інструмент, на відным і даступным месцы — кнігу водгукаў і прапаноў. Павінен быць здаровым. Падыход да кропкі гандлю таксама ўтрымліваецца ў добрым стане.

Пры неабходнасці прадавец на дзяржаўнай мове называе сябе, найменне прадпрыемства, пра ўласніка, паведамляе аб рэжыме работы, нумар, дату атрымання ліцэнзіі і назву органа, які выдаў гэтую ліцэнзію. Увогуле, такая інфармацыя змяшчаецца на шыльдзе фасада памяшкання ці на ўваходных дзвярах.

Забараняецца спыняць доступ пакупнікоў у гандлёвую залу з набліжэннем абедзенага перапынку ці заканчэння работы прадаўца. Усе пакупнікі, маючыя на руках касавыя і таварныя чэкі, павінны быць абслужаны. За 10 мінут да заканчэння работы прадавец спавяшчае пакупнікоў аб тым, што час працы заканчваецца і аслугоўванне спыняецца. Уваход спажыўцоў у рэстараны, кафэ можа быць спынены за 30 мінут, а ў іншыя аб'екты грамадскага харчавання – за 15 мінут да іх закрыцця.

У вітрынах магазінаў могуць быць ўзоры тавараў, якія ёсць у продажы. Яны могуць быць прададзены, калі гэтага пажадае пакупнік. Узоры, змешчаныя ў якасці элементаў кампазіцыйнага афармлення вітрыны ці інвентару, не рэалізуюцца.

За ўпакоўку дадатковая плата не бярэцца, выключаючы папярэдне расфасаваны тавар у поліэтыленавыя пакеты без герметычнай упакоўкі і маркіроўкі.

Па патрабаванню пакупніка прадавец абавязаны перадаць такі тавар у бясплатнай упакоўцы. Прадавец не мае права прадаваць адзін тавар з умовай абавязковага набыцця іншага.

Пагрузка буйнога тавара робіцца бясплатна на транспарт пакупніка. Прадавец нясе адказнасць за ўзятыя на захаванне рэчы пакупніка, з якімі забаронены ўваход у гандлёвую залу. Пакупнік можа пакінуць куплены буйны тавар на суткі.

Забаронены продаж са складоў, службовых і падсобных памяшканняў, да рабочага часу і пасля яго.

Гэта далёка не ўсе абавязкі прадаўца. Мы не гаворым, як нас абслугоўваюць, з якім настроем пакідаем магазін і інш.

# Ратуша

**Старонка рэгіянальнага праваабарончага цэнтра**



## САБРАЛІСЯ РАЗАМ



Звыш 20-ці юнакоў і дзяўчат прынялі ўдзел у І-м з'ездзе выпускнікоў школы правоў чалавека для моладзі, створанай Гродзенскім абласным грамадскім аб'яднаннем "Ратуша" у 1998 годзе. Была заслухана надзённая інфармацыя аб стане правоў чалавека ў Беларусі, вобласці і свеце. Цікавым быў абмен думкамі аб разгортванні ўласнай праваабарончай дзейнасці.

**На здымку: арганізатары з'езда, выкладчыкі Наталля Маліноўская і Фелікс Гавін праводзяць заняткі; у час перапынку.**

## ЗАСЛУХАЛІ ІНФАРМАЦЫЮ

29 лістапада адбылася 3-я Асамблея няўрадавых арганізацый вобласці. Сярод іншых паведамленняў была заслухана інфармацыя юрыста Фелікса Гавіна "Праваабарончы рух Гродзеншчыны". У прыватнасці, быў адзначаны вялікі ўклад у стварэнне рэгіянальнага праваабарончага руху правазнаўцы Галіны Восіпавай. Дзесяць гадоў вядзе яна прыём пакрыўджаных уладай грамадзян. Цяпер вядомая юрыстка ўзначальвае грамадскае аб'яднанне "Гродзенская асацыяцыя юрыстаў".

**Юрый Кузняцоў**

## ПРАГУЧАЛА Ў ДАКЛАДЗЕ

Беларускі Хельсінскі камітэт падрыхтаваў чарговы даклад "Правы чалавека ў Беларусі". Тут змешчаны матэрыялы беларускіх праваабарончых арганізацый, а таксама факты, адлюстраваныя ў сродках масавай інфармацыі краіны.

Публікацыі размешчаны па рубрыках "Пагроза беларускай дзяржаўнасці", "Удзел грамадзян у кіраванні сваёй краіной", "СМІ у Беларусі", "Пераслед палітычных апанентаў", "Незалежны суд", "Грамадскія ад"яднанні", "Мірныя сходы", "Бесчалавечнае абыходжанне, катаванні, якія прыніжаюць годнасць асобы", "Эканамічны стан насельніцтва Беларусі", "Рэлігійныя канфесіі і нацыянальныя меншасці".

**Святлана Алёхіна**

## АДЛЮСТРАВАЛІ Ў ЗАЯВЕ

"Беларусь, Цэнтральная і Усходняя Еўропа: ствараем і абараняем грамадзянскую супольнасць". Аб гэтым гаварылася ў час рэгіянальнай лістападаўскай сустрэчы Цэнтраў Плюралізму – канфедэрацыі няўрадавых арганізацый, якая была створана ў пачатку 90-х гадоў.

У рабоце сустрэчы ўдзельнічалі прадстаўнікі няўрадавых арганізацый, палітыкі, журналісты з Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны, Эстоніі, Чэхіі.

Гродзенскі рэгіянальны Рэсурсовы цэнтр "Ратуша" прадстаўляў яго старшыня Аляксандр Мілінкевіч. У сваім выступленні ён раскрыў сутнасць тэмы "Беларускі вектар рэгіянальнай палітыкі".

У прынятай заяве, даецца адзнака праведзеным выбарам у так званую палату прадстаўнікоў. У прыватнасці, адзначана, што ва ўмовах найгрубейшага парушэння правоў чалавека, антыдэмакратычнага выбарчага заканадаўства, пры адсутнасці рэальных паўнамоцтваў заканадаўчай і судовай уладаў выбарчы фарс не быў прызнаны міжнароднымі арганізацыямі ў якасці свабодных і сумленных.

## Прававая клініка ў Гродне

У сярэдзіне лістапада абласная грамадская арганізацыя "Ратуша" правяла семінар на тэму "Правая клініка: навучанне студэнтаў права звычкам працы юрыста".

Прадстаўнікі "Прававой клінікі" Брэсцкага абласнога цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў "Вежа" паведамілі аб уласным аказанні бясплатнай дапамогі сацыяльна неабароненым грамадзянам, падзяліліся вопытам.

Такая ж прававая клініка ужо створана і ў Гродне.

## АБАРОНЦАЎ СТАНОВІЦЦА БОЛЬШ

Гродзенскае абласное грамадскае аб`яднанне "Ратуша" арганізавала семінар для журналістаў на тэму "Свабода слова сярод іншых правоў чалавека". Семінар быў праведзены запрошанымі трэнерамі з ліку выпускнікоў Школы правоў чалавека пры Хельсінскім Фондзе па правах чалавека ў Варшаве.

Трэнеры папярэдне правялі сустрэчы ў рэдакцыях незалежных газет Беларусі, зведалі ўмовы працы беларускіх журналістаў, спосабы падачы матэрыялаў на тэму абароны правоў і асноўных свабод чалавека.

Сабраная інфармацыя знайшла сваё адлюстраванне ў праграме адукацыйнага семінара. Госці зрабілі выснову, што беларускія незалежныя журналісты часцей усяго асацыіруюць парушэнні правоў чалавека з затрыманнем удзельнікаў несанкцыянаваных акцыяў апазіцыі. Іншымі праблемамі цікавяцца радзей. Пагэтаму большасць рэдакцый мясцовых газет ("Брэсцкі кур`ер", "Віцебскі кур`ер" і інш.) папросту ўвялі рубрыкі абароны правоў чалавека і дару-чылі рыхтаваць публікацыі юрыстам.

Зацікаўлена праходзілі заняткі, прысвечаныя напісанню допісаў па парушэнню правоў асобы. Выкарыстоўваліся інтэрактыўныя метады праз стварэнне віртуальнай рэчаіснасці на беларускім матэрыяле.

Асобнае месца на семінары было адведзена дыскусіі пра межы свабоды слова з улікам права на прыватнае жыццё.

Удзельнікі семінара прыводзілі шмат прыкладаў з праваабарончай дзейнасці.

**Наталля Маліноўская**

З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ ЮРЫСТА

# ПРАВЫ І ПРАВА

**Дактрына прававой дзяржавы, распрацаваная заходнееўрапейскай палітычнай і прававой думкай, пакуль што з'яўляецца найлепшым дасягненнем у арганізацыі палітычнай сістэмы грамадства, гарантам сацыяльнай справядлівасці.**

Фундаментальнай ідэяй Канстытуцыі прававой дзяржавы ёсць ідэя вяршынства права, а не ўлады кіраўніка. "Я бачу блізкую смерць дзяржавы, дзе закон не мае сілы і знаходзіцца пад чыёй-небудзь уладай". Так сказаў Платон. Яго вучань Арыстоцель таксама стаяў на гэтай пазіцыі. Дзяржаву Закона прапагандавалі Фама Аквінскі, буржуазныя ідэолагі Гроцый, Спіноза, Русо. Яны распрацавалі канцэпцыю натуральнага права.

Русо вылучыў канцэпцыю народнага суверэнітэта. Толькі народ прымае рашэнні, якія павінны адлюстроўвацца ў дэмакратычным рэспубліканскім праве. Лок, Мантэск'е і Канстан распрацавалі асновы падзелу ўладаў. Яны лічылі, што раўнавага забяспечыць вяршэнства закона, выключыць з практыкі злоўжыванне ўладай, парушэнне свабоды асобы.

Вышэйшай каштоўнасцю дактрыны прававой дзяржавы, якраз і з'яўляюцца ўласна натуральныя правы чалавека. Яны выводзяцца з самой яго прыроды. Дзяржава пры гэтым трактуецца як штучны інстытут, створаны сацыяльным кантрактам з мэтай калектыўнай абароны правоў і свабод чалавека. Няма апраўдання дзяржаўнаму свавольству, калі размова ідзе аб парушэнні правоў асобы. Дзяржава павінна быць адказнай перад грамадствам і кожным яе сябрам.

Адсюль і вынікае сутнасць вяршэнства права ў прававой дзяржаве. Іншыя ставяць знак роўнасці паміж разуменнямі права і правы. Гэта не так. Права заклікана быць нарматыўным носьбітам праўды і справядлівасці. Гэта сукупнасць напрацаваных чалавецтвам цягам цывілізацыі агульных правілаў паводзін, у аснове якіх закладзены культурныя і маральныя каштоўнасці. Права забяспечвае сацыяльную свабоду, высокую арганізаванасць, дакладнасць і строгасць развіцця каштоўнасцяў грамадства, рэалізацыю маральных, чалавекалюбчых, агульных дасягненняў культуры. Правы рэалізуецца праз нормы права ў выглядзе законаў, дэкрэтаў, указаў, пастаноў, інструкцый і іншых падзаконных актаў.

Асноўная роля ў прававой дзяржаве належыць Канстытуцыі.

**Алег Куц**



Правы чалавека і яго асноўныя свабоды абараняюць тыя, хто заклапочаны іх станам. Гэты здымак вельмі нагадвае мінулае, і гаворыць пра тое, што так можа быць у будучым. Былі часы, калі за народ «адказвалі» толькі кіраўнікі. Яны не любілі самастойнасці людзей. Непаслухмяных праследавалі.

Няўжо наперадзе нас чакае мінулае? Такое пачуццё, што беларусы на раздарожжы...




# Вась-вась, і за шкірку!

**Дзяржаўная газета "Рэспубліка" змясціла допіс Мікалая Васькова "Политические "гранды" добывают гранты". Аўтар вырашыў таксама тыцнуць чорнай фарбай па "нашай апазіцыі" і некаторых яе добразычліўцаў у заходніх краінах. Трэба толькі вітаць такія спробы пяра акулы "вертыкальнай" журналістыкі.**

Ну, сапраўды, адкуль прасты вясковы чытач даведаецца, што на свеце ёсць такія арганізацыі, як "Савет па міжнародных даследваннях і абмену (IREX), "Амерыканская асацыяцыя юрыстаў", "Каунтэрпарт" – усяго звыш 50-ці, "зарэгістраваных на тэрыторыі рэспублікі". Аказваецца, яны абслугоўваюць праекты няўрадавых грамадскіх арганізацый. Актыўна дапамагаюць у гэтым польскі фонд імя Стэфана Баторыя, амерыканскі "Нацыянальны фонд у абарону дэмакратыі"...

Мікалай Васькоў узгадвае мінскія фонд імя Льва Сапегі, цэнтр "Супольнасць", Гродзенскую абласную грамадскую арганізацыю "Ратуша". Нават газету "Пагоня" успомніў, дабрачынны фонд імя Г.Карпенкі. Ну проста не газетны матэрыял атрымаўся, а падрабязная даведка з "кампетэнтных органаў". Такія падрабязнасці прыводзяцца, што сапраўды ўзнікае думка: адкуль чэрпаў інфармацыю шаноўны журналіст? Калі ўзводзіў вочы да столі і выдумляў, то гэта адно. Калі спісваў з падсунутых паперак за шчыльна зачыненымі дзвярыма "кампетэнтнай" установы, то зусім іншае.

Апошняе бліжэй да ісціны. Адкуль сталічнаму пісаку, скажам, ведаць пра мястэчковыя справы віцебскай рады "Адраджэнне" ці ашмянскіх "маладафорумцаў"? Нехта ж збірае экзэмпляры няўрадавых выданняў, надрукаваных у колькасці 299 штук, дазволеных законам, і дасылае ў Мінскі "цэнтр". Туды простаму смяротнаму хады няма. Апазіцыянераў і блізка не падпусцяць. Зайсці дазволена толькі асобам, набліжаным да ўлады. Таму ж Мікалаю Васькову, напрыклад. Такі давер трэба заслужыць не абы як! Значыць, напіша тое, што трэба заказчыку, дасць пад дых праклятым апазіцыянерам і іх капіталістычным спонсарам.

Палохае Мікалай Васькоў чытачоў падкопамі пад нашу "дэмакратыю" дзядзькаў з Захада. Вась-вась, котка, а затым дзверы на замок. І прапала Беларусь, небарака! Пра тое, што рэспубліка ўжо стала па-сутнасці чарговай расійскай правінцыяй журналіст не піша. Гэта яго не хвалюе. Такога заказу не было. Пры новай уладзе хіба памяняе арыентацыю. Куды вецер задзьме, туды і паверне баявое пяро непадкупны публіцыст ленінскай школы.

Калі шчыра, то такі палітычна-псіхалагічны лямант толькі на руку няўрадавым арганізацыям. Значыць, яны ёсць і дзейнічаюць. І мабыць, нясла-ба, калі "Рэспубліка" – адна з важнейшых дзяржаўных газет узгадвае пра іх існаванне. А што да таго, хто лье бруд, сам жа ў брук і выкачаецца. Адразу відаць, што за птушка. Не даляціць яна да светлага небасхілу шчаслівай будучыні, і якую, як хамут на шыю, стараецца навязаць беларускаму грамадству.

**Антон Лабовіч**

# ПРА КАЙДАНКІ, ВАДАМЁТЫ І САБАК



**У 2000-м годзе ў Гродне, іншых раённых цэнтрах адбываліся як дазволеныя, так і несанкцыянаваныя мітынгі і пікеты, арганізаваныя і праведзеныя мясцовымі няўрадавымі арганізацыямі. Іншыя ўдзельнікі былі затрыманы органамі аховы правапарадку і ў выніку асуджаны да турэмнага зняволення ці штрафа.**

**Увогуле, якія паўнамоцтвы мае міліцыя ў сувязі з правядзеннем грамадскіх акцый? У якіх выпадках можа прымяняць фізічную сілу, спецыяльныя сродкі і зброю?**

У адпаведнасці з Законам "Аб міліцыі", яна прызвана абараняць жыццё, здароўе, правы, свабоды і законныя інтарэсы грамадзян, грамадства і дзяржавы ад злачынных і іншых супрацьпраўных праяў. Дзейнасць міліцыі, АМОНа, спецназа і г.д. будуецца на прынцыпах законнасці, гуманізму, павагі правоў чалавека, галоснасці, цеснай сувязі з насельніцтвам. Закон патрабуе абараняць чалавека незалежна ад яго грамадзянства, сацыльнага, маёмаснага і іншага становішча, расавай і нацыянальнай прыналежнасці, палітычных і іншых перакананняў, узросту, адукацыі і мовы. Усялякае абмежаванне грамадзян, іх правоў і свабод мыгчыма толькі на падставе і ў парадку, прадугледжаным законам.

У сферы аховы грамадскага парадку міліцыя надзелена наступнымі правамі:

⇨ патрабаваць ад грамадзян захавання грамадскага парадку, правяраць пры падозры ў здзяйсненні правапарушэнняў дакументы, якія пацвярджаюць асобу;

⇨ выклікаць грамадзян па справах і матэрыялах, якія знаходзяцца ў вытворчасці. У выпадку ўхілення ад яўкі без паважных прычын, прыводзіць прымусова.

⇨ Затрымліваць і трымаць у спецыяльна адведзеных памяшканнях асобаў, якія здзейснілі адміністрацыйныя правапарушэнні, для выяўлення іх асобы, складання пратакола ці разгляду справы па сутнасці, калі гэтыя пытанні не могуць быць вырашаны на месцы, — на тэрмін да трох гадзін, калі іншае не ўстаноўлена законам;

⇨ рабіць дагляд асобаў, затрыманых на падставе і ў парадку, устаноўленым законам, а таксама дагляд рэчаў затрыманых, забіраць дакументы, прадметы і рэчы, якія могуць быць рэчавымі доказамі здзейсненага злачынства;

⇨ ажыццяўляць вытворчасць і накладаць прадугледжаныя законам пакаранні за адміністрацыйныя парушэнні ў межах кампетэнцыі;

⇨ рабіць фатаграфаванне, гуказапіс, кіна-відэаздымкі, а таксама дактыласкапаванне асобаў, пакараных па рашэнню суда (да вынясения рашэння суда нельга) адміністрацыйнаму арышту за адміністрацыйнае правапарушэнне;

⇨ Прымяняць у выпадку і парадку, падугледжаным законам меры фізічнага ўздзеяння, спецыяльныя сродкі і зброю.

Міліцыя павінна клапаціцца аб затрыманых, прымаць меры па аказанні ім медыцынскай дапамогі. Умовы ўтрымання таксама павінны адпавядаць санітарным і гігіенічным нормам. Работнікі правапарадку не павінны распавядаць пра рэчы і матэрыялы, знойдзеныя ў затрыманага, і якія тычацца яго прыватнага жыцця. Міліцыя павінна адразу паведаміць родным, адміністрацыі па месцу вучобы ці работы аб месцы знаходжання затрыманага. Паклапаціцца аб запрашэнні да затрыманага адваката.

Фізічную сілу, спецыяльныя сродкі і зброю міліцыя прымяняе ў адпаведнасці з арт.18 Закона "Аб міліцыі" у выпадках, калі выкананне ўскладзенных абавязкаў іншымі сродкамі немагчыма. Аднак павінны прагучаць папярэджанні. Міліцыя павінна клапаціцца, каб нанесці найменшую шкоду здароўю, гонару і годнасці, маёмасці грамадзян, забеспячэнню медыцынскай дапамогі. Калі гэтыя патрабаванні не выкананы, тады міліцыянер будзе несці адказнасць па закону.

Спецыяльныя сродкі (кайданкі, гумавыя палкі, сродкі звязвання, спецыяльныя хімічныя рэчывы, вадамёты, бронемашыны, службовыя сабакі і г.д.) ужываюцца ў выключных выпадках, да якіх таксама адносяцца:

⇨ адбіццё нападу на грамадзян і работнікаў міліцыі;

⇨ спыненне масавых беспарадкаў і групавых парушэнняў грамадскага парадку;

⇨ спыненне непадпарадкавання ці супраціўленне законным патрабаванням работнікаў міліцыі;

⇨ папярэджанне і спыненне правапарушэнняў;

⇨ затрыманне і дастаўка ў міліцыю ці іншае службовае памяшканне асобаў, якія здзейснілі правапарушэнні.

Ад спецыяльнага сродку і інтэнсіўнасць яго выкарыстання вызначаюць работнікі міліцыі. Ім рэкамендуецца пазбягаць наносіць удары па галаве і шыі. Медыцынская дапамога павінна быць аказана адразу пры неабходнасці.

Нельга прымяняць зброю ў адносінах да грамадзян, якія прымаюць удзел у мірных шэсцях, дэманстрацыях, мітынгах.

Але ці заўсёды органы правапарадку прытрымліваюцца прынятых заканадаўчых актаў?

# АДДАЛІ ВЕРНІКАМ

Музей гісторыі іудаізму Заходняй Беларусі і школа па вывучэнню Торы (старажытнагабрэйская назва Пяцікніжжа Майсеева - першых пяці кнігаў Біблії) размесцяцца ў старажытным будынку Слонімскай сінагогі, які быў нядаўна вернуты вернікам.

Будынак сінагогі быў пабудаваны ў 1642 годзе як частка комплексу гарадскіх умацаванняў і з`яўляецца помнікам архітэктуры барока рэспубліканскага значэння. Архітэктура сінагогі значна не змянілася: захаваліся ўнікальныя роспісы і ляпніна на сценах, месца, дзе захоўвалася свяшчэнная кніга, жаночая палова храма і інш.

Нягледзячы на ўнікальнасць помніку, будынак доўгі час заставаўся ў занядбалым стане. Улады аддалі будынак габрэйскай абшчыне толькі пасля таго, як абвалілася ўваходная брама. Працы па кансервацыі, а потым і рэстаўрацыя сінагогі павіны распачацца ў 2001 годзе пры падтрымцы Сусветнага габрэйскага мемарыяльнага фонду (Нью-Йорк).

Рэдакцыйная калегія бюлетэня «Маю права»
Аляксандр Антанюк, Феліке Гавін, Сяргей Мальчык, Аляксандр Мілінкевіч, Аляксей Шульга

Выдаецца на беларускай мове.
На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна.
Адрас:230023 Гародня, вул. Будзённага 48а ГА «Ратуша», тэл./факс 44-22-90
E-mail: mil@ratusha.grodno.unibel.by

Наклад 299 асобнікаў
Адказны за выпуск Уладзімір Кавалёў
Дызайн і вёрстка Адам Кір'яцкі

Бюлетэнь дабрачынна надрукаваны ГАГА «Ратуша» пры падтрымцы фонда «Альянс Каунтэрпарт», камісіі па Дэмакратыіі Амбасады ЗША на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыіі (ЗША)